# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (700) 27 ЛІПЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


Да 25 гадавіны вызвалення горада

## НОВАЕ АБЛІЧЧА БЕЛАСТОКА

Калі Беласток стаў горадам — па праўдзе невядома. Гісторыкі ўсё яшчэ сварацца за яго пачаткі. Адны хацелі б бачыць Беласток сівабародым, звыш 500-гадовым дзядуляй, іншыя намагаюцца амаладзіць яго на нейкіх 200 год, а яшчэ іншыя даказваюць, што пра Беласток, як пра горад, можна гаварыць толькі ад палавіны XVIII стагоддзя.

Вядома аднак шмат іншых рэчаў пра сённяшнюю сталіцу Беластоцкага ваяводства. Вось больш-менш у 1860 годзе ў Беластоку жыло 17 тысяч асоб, у апошнім годзе XIX стагоддзя налічваў ён 61 тысячу жыхароў, зараз пасля першай сусветнай вайны (1921 г.) — 77 тысяч, а паводле стану на дзень 1 студзеня 1939 года ў Беластоку жыло 107 тысяч чалавек.

У верасні 1939 года Беласток не пацярпеў ад ваенных дзеянняў. Трагедыя Беластока пачалася ў чэрвені 1941 года, калі азвярэлыя «рыцары» вермахта спалілі дашчэнту «яўрэйскі» квартал, а разам з ім вялікую сінагогу і некалькі тысяч сагнаных там яўрэяў. Потым было яшчэ ўзброенае паўстанне ў яўрэйскім гета, якое гітлераўцы выкарысталі да масавага знішчэння горада.

Вызваленне Беластока прыйшло роўна 25 год таму назад. 27 ліпеня 1944 года прынеслі яго на сваіх гарматах і танках савецкія воіны.

Варта тады было ўзняцца на вежу касцёла святога Роха, каб з гэтай вышыні патлядзець на фантастычную пустыню асмаленых, злавесных развалін.

Статыстыкі інфармуюць, што цэнтр горада быў разрушаны ў 80%, што прамысловасць Беластока была знішчана ў 96%, што ў звыш 100-тысячным горадзе асталося ледзь 48 тысяч чалавек.

Пад народнай уладай, за 25 год яе існавання, Беласток карэнна змяніў сваё аблічча. Паводле навейшых дадзеных стаў ён ужо 162-тысячным горадам.

Дык прапануем кароткую прагулку па яго вуліцах. (стар. 3)

Тэкст **В. Рудчык**
Фота **Цаф — Сянько**



Беласток сардэчна вітае 25-годдзе ПНР і свайго вызвалення. З гэтай нагоды сёлета вуліцамі горада прайшоў магутны паход моладзі беластоцкіх школ. На здымку: фрагмент паходу на вуліцы М. К. Складоўскай.



Парад маладосці. Ідуць школьныя спартсмены Беласточчыны.



Маладзёжны паказ на стадыёне імя Кусацінскага ў Беластоку. Сімвалізуе ён герб дзяржавы і яе граніцы.

## БГКТ

Гурток беларускага таварыства ў Малінніках (старшыня гуртка Юрка Іванчук) запрапанаваў Бельскаму аддзелу, каб фестын прысвечаны 25-ай гадавіне народнай улады ў Польшчы арганізаваць у іх вёсцы. Праўленне аддзела ўзяло пад увагу дасягненні гуртка ў мастацкай самадзейнасці, арганізатарскую яго ролю ў грамадскіх дарожных чынах, а таксама добрае супрацоўніцтва з Саюзам вясковай моладзі і дала згоду на просьбу членаў БГКТ з Маліннік. І ўся моладзь гэтай вёскі разам з настаўнікамі пачала рыхтавацца да фестыну. Работы было шмат. Перш за ўсё неабходна было атрымаць дошкі на падлогу. Яна служыла б за трыбуну, сцэну, ці танцавальную пляцоўку. У гэтай справе неабходна было звярнуцца ў ГРН у Грыгараўцах і павятовыя ўлады ў Бельску. Пасля зноў неабходна было гэтую пляцоўку зрабіць, абгарадзіць, парабіць лаўкі, месца для аркестра, прыбраць яе бярозкамі, падрыхтаваць лозунгі, прымацаваць іх на чырвоных палотнішчах і народных дыванах. Менш было клопатаў з месцам для фестыну. А гэта таму, што ўсе там ведаюць, што за Маліннікамі ёсць так званы садок, дзе некалькі гектараў зямлі акружана дрэвамі — быццам агароджай.

13-га ліпеня ўжо ад 10 гадзіны раніцы пачалі збірацца людзі. Ішлі яны пехатою, ехалі веласіпедамі і матацыкламі. Ніхто не пытаўся, у якім месцы будзе фестын, таму што на цёмнай асфальтнай шашы былі нарысаваныя стрэлкі, а за імі надпісы «да фестыну».

Пачаткова адбыліся на ўспомненым пляцу спартыўныя ігры, якія арганізаваў ЛьЗС. Спаборнічалі паміж сабой дзве валейбольныя каманды. А пасля быў конкурс для матацыклістаў.

Пасля 13-ай гадзіны пачалася афіцыйная частка. Сакратар грамадскага камітэта ў Рыгараўцах Сцяпан Бурыла адкрыў урачыстасць. Аркестр адыграў дзяржаўны гімн. Даклад прысвечаны 25-ай гадавіне Народнай Польшчы прачытаў інструктар ГП БГКТ на Бельскі аддзел — Іван Шурбак. Пасля заканчэння даклада аркестр адыграў інтэрнацыянал. Затым пачалася мастацкая частка. Успомнены духавы аркест эканамічнага тэхнікума з Бельска Падляшскага выканаў шмат мелодый. Калі закончыў сваю праграму аркестр, увайшла на сцэну эстрадная група з Боцек. Пад кіраўніцтвам Генавефы Луцыян члены эстрады паказалі высокі мастацкі ўзровень. Выканалі яны шмат сучасных бігбітовых песень.

На фестыне паказалі свае здольнасці і дзяўчаты з Маліннік у асобах: Марыся Таранта, Ніна Іванчук і Ніна Баршчэўская. Песні ў іх выкананні спадабаліся прысутным.

Апошнім выступаў харавы калектыў Бельскага аддзела БГКТ пад кіраўніцтвам Міхася Артысевіча. Яго праграма складалася з беларускіх і рускіх песень. Працягвалася яна больш гадзіны часу. А ўся мастацкая частка заняла дзве з палавінай гадзіны.

Тут неабходна сказаць аб вялікіх перашкодах для ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Быў страшэнны вецер. Аддзел БГКТ у Бельску не патрапіў арганізаваць мікрафона і ўзмацняльніка.

Пасля кароткага перапынку пачалася самая найдаўжэйшая частка фестыну — забава пад гукі мясцовага 4-асабовага малінніцкага аркестра. Танцавала моладзь да позніх гадзін ночы. Гаспадары ўрачыстасці — моладзь Маліннік — вельмі сардэчна і ветліва адносіліся да ўсіх прысутных.

Такая ўрачыстасць была ў Малінніках упершыню. На яе прыбыло каля тысячы чалавек — і ўсе вынеслі вельмі прыемныя ўражанні.

**Міхась Хмялеўскі**

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### АПАЛОН — 11

Чалавецтва яшчэ раз магло перакanацца аб велічы чалавечага розуму. Тры амерыканскія касманаўты выбраліся ўпершыню, каб паставіць чалавечую ногу на Месяцы, каб адкрыць новую эру ў заваёўванні іншых планет.

Падаем кароценькія звесткі аб людзях, аб якіх сёння гаворыць увесь свет.

**Н. Армстронг:** Нарадзіўся ў 1930 годзе. Ад 1949 года па 1952 г. служыў у авіяцыі амерыканскай арміі. Будучы ў арміі у 1955 г. закончыў вышэйшую адукацыю і зараз з'яўляецца інжынерам-канструктарам. У паветры прабыў 4 тыс. гадзін. Ад 1962 г. належыць да сям'і касманаўтаў. У 1966 г. выканаў касмічны палёт, дзе спалучыліся два касмічныя караблі. Палёт гэты быў спынены праз 6 гадзін лёту, а меў працягвацца 3 дні.

Армстронга называюць чалавекам з жалезнымі нервамі. Армстронг мае 178 см. росту і 75 кг вагі. Ёсць ў яго два сыны — 12 і 6 год.

**М. Колінз:** З'яўляецца сынам амерыканскага ваеннага. Бацька яго быў ваенным аташэ ў Рыме, і тады ў 1930 г. нарадзіўся ў яго сын, сённяшні селенанаўт. М. Колінз закончыў ваенную акадэмію. У паветры прабыў 4 тыс. гадзін. Адбыў касмічны палёт і прабываў звонку карабля. Цяпер, у палёце на Месяц, М. Колінз камандваў мацярыскім караблём. Аб сабе гаварыў: «Гісторыя пакіне мяне ў ценю». Ён найбольш маламоўны. Колінз мае трое дзяцей: 2 дачкі — 10 і 7 год і сына 6 год.

**Э. Олдрын:** Закончыў ваенную акадэмію і з'яўляецца доктарам навук. Ад 1963 г. — касманаўт. У 1966 г. быў пілотам касмічнага карабля, які 59 разоў акружыў зямлю. Мае двух сыноў — 13 і 11 год і дачку 11 год.

### АБ «САТУРНЕ»

Селенанаўтаў вынесла ракета «Сатурн» вышынёю 160 м. Складалася яна з больш чым 5 мільёнаў частак. Сіла ўсіх матораў раўнялася сіле каля 600 матораў сучасных рэактыўных самалётаў. На працягу адной секунды маторы спальвалі 15 тон гаручага, а яго агульны запас — 3 400 тон.

Кошт эксплуатацыі і аперацыя, звязаная з вылаўленнем карабля з акіяна, — 65 мільёнаў долараў. Агульны кошт палёту на Месяц склаў каля 400 мільёнаў долараў. На касмічныя доследы ЗША выдаюць у год 4—5 мільярдаў долараў.

### ЧАЛАВЕК НА МЕСЯЦЫ

Калі аддаем гэты матэрыял да друку, дайшлі да нас звесткі, што Нейл Армстронг і Эдвін Олдрын шчасліва высадзіліся на Месяц. Такім чынам адкрыты новы шлях для заваявання міжпланетных тэрыторый.

### СЕМ...

...амерыканскіх сенатараў і кангрэсменаў разам з сем'ямі на працягу тыдня жылі выключна з запамогі для бедных. Атрымоўвалі яны каля 20 цэнтаў на харчаванне на 1 асобу. «Мы сцвердзілі, што 95% харчоў у крамах знаходзіцца па-за нашымі магчымасцямі пакупкі», — сцвердзіў адзін з сенатараў. «Цэлы дзень чалавек галодны, асабліва адчуваюць гэта дзеці», — дадаў іншы сенатар.

А. К.



## БССР

### ПРАГРЭС

«Рэформа і тэхнічны прагрэс» — пад такім загалоўкам апублікаваны ў «Звяздзе» рэдакцыйны артыкул. Навязваючы да асноў сучаснай савецкай гаспадарчай рэформы, у гэтым артыкуле м. ін. сцверджана:

«У прамысловасці рэспублікі эканамічныя метады кіраўніцтва ўкараняюцца вельмі марудна (...) Пэўныя цяжкасці выклікае і наяўнасць многіх дробных неспецыялізаваных прадпрыемстваў, дзе тэхнічны ўзровень даволі нізкі. І тым не менш міністэрствы і ведамствы мала што робяць па стварэнню гаспадарча-разліковых фірм, аб'яднанняў, камбінатаў. Практыка ж паказвае, што толькі буйныя прадпрыемствы або аб'яднанні маюць магчымасць арганізаваць у сябе дастаткова магутныя навукова-тэхнічныя і дапаможныя службы і весці вытворчасць на сучасным тэхнічным узроўні».

### ПРАПАГАНДАВЫХ

У ЦК Кампартыі Беларусі адбыўся семінар удзельнікаў прапагандавых груп і дакладчыкаў, якія выязджаюць у раёны рэспублікі з лекцыямі і дакладамі аб выніках міжнароднай Нарады камуністычных і рабочых партый у Маскве.

### ЧЭХАСЛАВАЦКАЙ

Мінск наведала дэлегацыя партыйных работнікаў Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі на чале з загадчыкам аддзела прамысловасці, транспарту і сувязі Цэнтральнага Камітэта КПЧ Карэлам Скалам.

### ЗДАРОЎЯ

У сувязі з Днём здароўя беларускі друк апублікаваў найноўшыя даныя развіцця службы аховы здароўя ў рэспубліцы. На пачатак гэтага года налічвалася ў Беларусі 87 660 бальнічных ложкаў. У вёсках існуе 2 800 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Агульны лік лекараў розных спецыяльнасцей — 21 100 і 65 200 фельчараў, сёстраў, акушэрак.

Праца многіх беларускіх медыкаў адзначана высокімі ўрадавымі ўзнагародамі.

### АРХЕАЛАГІЧНАЯ

Летнія пошукі пачала беларуская археалагічная экспедыцыя. Упершыню пачынаецца абследванне абаронных збудаванняў XIII — XVI стагоддзяў, у тым ліку крэпасцяў Івана Грознага «Сокал» на Полаччыне, «Тураўля», «Гомель».

### ГАЛУБОВІЧ

Беларускі спартсмен Арнольд Галубовіч устанавіў два новыя сусветныя рэкорды для атлетаў сярэдняй вагі. Галубовіч выціснуў штангу 170 кілаграмаў, перавысіўшы на паўтара кілаграма дагэтуляшні рэкорд свету. Затым, у трохборстве, яго вынік — 490 кілаграмаў; на 2,5 кілаграма больш ад рэкорду свету.

(С. Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ТОСТ

Напярэдадні 25-годдзя Народнай Польшчы ў Бельведэры адбылося шэраг урачыстасцей адзначэння высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі заслужаных дзеячаў, рабочых, працаўнікоў культуры і навукі. На адной з урачыстасцей з тостам выступіў І сакратар партыі Уладзіслаў Гамулка. Склаў ён адзначаным сардэчныя віншаванні, а затым даўжэй затрымаўся над шляхам, які прайшла наша краіна на працягу апошняга 25-годдзя. Кожны, — сказаў прамоўца, — хто ад першых дзён узнікнення Народнай улады будаваў яе фундаменты, быў тым, хто свядома ці несвядома накіроўваў жыццё краіны ў рэчышча, якое найбольш адпавядала інтарэсам усяго народа. Гэта першыя атрады Польскай рабочай партыі, салдаты Народнай гвардыі і Народнай арміі, якія налічвалі дзесяткі тысяч людзей. Людзі гэтыя былі авангардам, які кіраваў ходам гісторыі на нашай зямлі. Але стваральнікам усяго таго, што на працягу 25-годдзя ў нас створана, быў увесь народ: партыйныя і беспартыйныя, члены рабочай партыі і іншых партый, уваходзячых у састаў Фронту адзінства народа. Сёння Народную ўладу ў Польшчы свядома падтрымлівае аграмадная большасць народа, сведчыць гэта найлепш аб гістарычным шляху, які прайшла краіна ад часу, калі за народную ўладу свядома змагалася толькі невялікая частка, найбольш ахвярныя сілы народа.

### УЗНАГАРОДЖАНЫ ДЗЕЯЧЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

У сувязі з 25-годдзем Народнай Польшчы па прапанове Агульнапольскага Камітэта Фронту Адзінства Народа 21 ліпеня вялікая група дзеячоў нацыянальных меншасцей атрымала высокія дзяржаўныя адзначэнні. З Беларускага таварыства адзначаны 15 асоб. Шырэй аб гэтым напішам у наступным нумары.

### ПРАБЛЕМЫ II ПЛЕНУМА

15 ліпеня ў Цэнтральным Камітэце партыі адбылася пад кірункам сакратара ЦК партыі Рышарда Стшалецкага нарада арганізацыйных сакратароў ваяводскіх камітэтаў партыі, прысвечаная рэалізацыі пастаноў II Пленума.

На нарадзе з прамоваю выступіў тав. Рышард Стшалецкі. Прааналізаваў ён датагачасныя вынікі рэалізацыі пастаноў II Пленума партыі і сцвердзіў, што зараз уваходзім у рашаючы этап рэалізацыі гэтых пастаноў. З'яўляецца ім стварэнне канцэпцыі 5-гадовага плана ў паасобных прадпрыемствах. Залогам правільнай рэалізацыі гэтага задання з'яўляецца ўключэнне ў працу над планам усяго актыву і рабочых калектываў прадпрыемстваў.

Тав. Рышард Стшалецкі ўказаў на шэраг недахопаў дагэтуляшняй рэалізацыі пастаноў II Пленума партыі. Істота гэтых недахопаў перад усім у прызвычаенні да старых метадаў кіравання гаспадаркай. Бліжэйшы перыяд патрабуе высокай актыўнасці партыйных устаноў, тым больш, што наступіла ўжо пэўнае спазненне ў рэалізацыі прадбачаных заданняў, а ліпень і жнівень з'яўляюцца месяцамі вялікай колькасці водпускаў. У далейшай частцы свайго выступлення тав. Р. Стшалецкі ўказаў на неабходнасць выпрацоўвання больш дасканалых метадаў палітычнага кіравання партыі органамі дзяржаўнага і гаспадарчага апарату.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### УРАЧЫСТАЯ СЕСІЯ ВРН, ГРН, ВК І ГК ФАН Ў БЕЛАСТОКУ

Гэтая сесія адбылася ў суботу ў тэатры Вянгеркі. Была прысвечана ўрачыстаму святкаванню 25-годдзя ПНР. Прысутнымі былі на ўрачыстасці дэлегацыі з Літвы — на чале з сакратаром ЦК Камуністычнай партыі Літвы тав. Э. Алгірдасам і міністрам сувязі О. Костасам, і з Беларусі — на чале з І сакратаром Абкома Камуністычнай партыі Беларусі ў Гродне Іванам Мікуловічам і старшынёй Выканкома Акруговай рады дэлегатаў працоўных у Гродне Н. Малочкам. Былі таксама дэлегацыі гарадоў Каўнаса і Гродна.

Сесію адкрыў старшыня Прэз. ВРН у Беластоку С. Жмійка. З дакладам выступіў І сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч. Накрэсліў ён месца і ролю нашай краіны ў свеце, а таксама дасягненні ваяводства ў мінулым 25-цігоддзі. Выразіў ён сардэчную падзяку ўсім людзям працы Беласточчыны.

На сесіі былі ўручаны ўзнагароды Прэз. ВРН у Беластоку. Было 8 індывідуальных і 3 калектыўныя ўзнагароды.

Пасля сесіі, увечары адбыўся вялікі мітынг на прыгожых беластоцкіх плянтах ля Помніка удзячнасці. Выступілі тут са словам І сакратар ГК ПАРП у Беластоку Ю. Трусевіч і заграцічныя госці. Ля Помніка ляглі кветкі і вянкі.

У большых фабрыках горада і ваяводства адбываліся ўласныя акадэміі, у якіх удзел прымалі госці з Літвы і Беларусі.

### ПОМНІК СВАБОДЫ Ў СЕЙНАХ

У нядзелю ў Сейнах быў адкрыты Помнік свабоды, збудаваны з нагоды 25-годдзя Народнай улады. Стаіць ён на сейненскім рынку. Праект выканаў беластоцкі скульптар Ст. Вакулінскі. На ўрачыстаць адкрыцця помніка прыехалі дэлегацыі з прыгранічных раёнаў Беларусі і Літвы.

### ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Беласточчына ў сваё свята сардэчна прымае многіх заграмічных гасцей. Сустрэчы на прафесіянальным узроўні адбыліся ў Фастах паміж фастаўскімі тэкстыльшчыкамі і прыехаўшай па іх запрашэнню ў Фасты 16-ціасабовай групай тэкстыльшчыкаў Гродна. У госці да беластоцкіх архітэктараў прыехалі архітэктары з Каўнаса.

### БЕЛАСТЦКІЯ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

Беластоцкія фабрыкі чынам прадукцыйным віталі агульнанароднае свята. У Фастах выпрадукавалася больш тканін і лепшых па якасці, у розных цікавых колерах. Фабрыка плюшу ў Беластоку дала прадукцыі на 650 тыс. зл. больш ад запланаванай. Замброўская тэкстыльная фабрыка, якая ў гэтым годзе святкуе таксама сваё 15-цігадовае існаванне, дадаткова выпрадукавала на 274 тыс. зл. тканін. Бельская рашарня прыняла абавязацельства на 716 тысяч злотых.

(вл)




**Niedziela, 27.VII.**

9.00 Program dnia. 9.05 „Przypominamy, radzimy". 9.25 „Cafe Rose" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.35 „Na zdrowie". 11.00 „Sztuka starożytnych Czudów" — film radz. 11.20 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1945". 11.50 Dziennik. 12.05 „W stylu romantycznym" — progr. muz. 12.50 „Przemiany". 13.20 „Mała historia Filmu Polskiego" cz. IV („W starym kinie"). 14.20 „Ojciec i syn. — film. 15.00 ZAWSZE W NIEDZIELĘ: Turniej Miast — Bolesławiec — Złotoryja. 17.00 Uroczysty Koncert na zakończenie Dni Kultury Polskiej w ZSRR. (Moskwa). 18.15 „Polacy na świecie" — teleturniej. 19.05 PKF. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Dni tworzenia" — rep. film. cz. II („Szlakiem Wielkich Przemian"). 20.35 „Teatr Telewizji na świecie": „Angielski klimat" (W. Brytania) 21.35 Program filmowy. 22.05 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 28.VII.**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. TV. 17.00 „Co i jak je chroni" — film („Opowieści ze świata zwierząt"). 17,25 „Z drugiej strony szklanego ekranu". 17.40 „Echo stadionu" — mag. sportowy. 18.00 „Spacerkiem po kinach". 18.25 „Tylko trzy lekcje" — film radz. 18.45 „Magazyn Postępu Technicznego". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.10 Teatr TV: Federico Garcia Lorca — „Miłość don Perlimplina do Belisy". 21.15 „Miasto nad Odrą" — rep. dok. 21.45 „W letnim nastroju" — film rozr. radz. 22.15 Dziennik TV.

**Wtorek, 29.VII.**

10.00 „Dama z tramwaju" — film fab. czechosłowacki. 11.20 Przerwa. 16.40 Prorgam dnia. 16.45 Dziennik TV. 16.55 „Basetla z kory" — film czechosł. 17.15 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.10 Wszechnica TV: „Nasi uczeni". 20.40 „Dama z tramwaju" — film fab. czechosł. 22.00 „Za kierownicą". 22.30 Dziennik. TV.

**Środa, 30.VII.**

10.00 „Wujek Pat" — film („Ścigany"). 10.50 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 PKF. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Teleferie". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Światowid". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.15 Międz. Zawody lekkoatl. 22.15 Dziennik TV. 22.30 „Wujek Pat" — film („Ścigany").

**Czwartek, 31.VII.**

16.40 Program dnia. 16.45 „Przypominamy, radzimy". 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Nie tylko dla pań". 17.20 „Witaj Wenus" — film dok. radz. 17.40 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.10 Występ Zespołu Pieśni i Tańca „Wielkopolska". 18.40 „Chopin w Paryżu" — film pol. 18.50 „Gienek" — film dok. pol. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.15 Międz. zawody lekkoatl. 22.15 Dziennik TV. 22.30 „Akord przed godziną W" — program dok.

**Piątek, 1.VIII.**

10.00 „63 dni" — film dok. TVP. 10.55 Przerwa 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Teleferie". 18.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.55 „Gdzie jesteś druga zmiano" — progr. publ. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 Estrada Literacka: „Sierpień 1944". 20.35 „63 dni" — film dok. TVP. 21.35 „Trzy zmiany Warszawy" — rep. film. 21.50 Dziennik TV.

**Sobota, 2.VIII.**

10.00 „Nikt nie mówi do widzenia" — film fab. kanad. 11.15 Przerwa. 16.20 Program dnia. 16.25 Program tygodnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Na pokładzie stanął kapitan" — film fab. radz. 18.25 „Pegaz". 19.05 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Cyrkowy wóz" — progr. rozr. 21.10 Dziennik TV. 21.30 „Nikt nie mówi do widzenia" — film fab. kanad. 22.50 „Józefina Baker w Olimpii" — film franc.




(Паводле маскоўскага часу)

**25 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА**

10.00 — навіны; 10.45 — для малодшых школьнікаў «Мы тут жывём»; 11.45 — «Тваё і маё юнацтва» Дакументальны фільм; 12.35 — для школьнікаў «Саратнікі У. І. Леніна», М. І. Калінін; 16.55 — праграма перадач; 17.00 — навіны; 17.15 — «Сказ пра рускую зямлю» Тэл. муз. фільм; 18.00 «Североморцы» Перадача да Дня Ваенна-Марскога Флоту СССР; 18.30 — «Эўрыка»; 19.10 — «Панарама навін»; 19.20 — «У адзіным страі — да адзінай мэты»; 19.50 «Наш зямляк» — Станіслаў Манюшка»; 20.30 — «Эстафета дня — жніво»; 21.35 — па заяўках тэлегледачоў. «Шэльменка-дзяншчык». Фільм — спектакль; 23.00 — міжнародная таварыская сустрэча па футболу СССР — ГДР. У перапынку — навіны.

**26 ЛІПЕНЯ, СУБОТА**

9.45 — навіны; 10.00 — «Будзьце шчаслівыя». Музычная вясёлая праграма; 10.30 — «Стандартызацыя і прагрэс»; 11.00 — «Музычны турнір гарадоў». Брэст-Нарыльск; 12.00 — для школьнікаў. «Расказы аб прыродзе»; 12.30 — «Музычная шкатулка»; 12.40 — «Тыдзень планеты». Міжнародны агляд; 13.00 — у эфіры — «Маладосць»; 13.30 — В. Баснер. Патрабуецца гераіня»; 16.30 — да Дня работніка гандлю; 17.30 Дні польскай літаратауры ў БССР «Гонар і граната»; 18.00 — канцэрт эстраднага аркестра; 19.00 — «Шлях у «Сатурн». Мастацкі фільм. 1-я серыя; 20.20 — «Навіны дня»; 20.30 — «Ленінізм — сцяг нашай эпохі»; 21.00 — навіны; 21.15 — «Вячэрні Ленінград» Эстрадны агляд; 22.15 — праграма каляровага тэлебачання; 23.45 — навіны.

# НОВАЕ АБЛІЧЧА БЕЛАСТОКА

Фота ЦАФ — СЯНЬКО



Новы Антанюк. Тут жыве значная часі ка калектыву фастаўскага камбіната.



Новы цэнтр горада.



Антанюк у зблізэнні.



Адзін з найпрыгажэйшых раёнаў горада — квартал вяжоўцаў восі «Цэнтр».



У тэатральным парку.



Пляны — улюбёнае месца адпачынку беластачан. У глыбіні помнік вызваліцелю горада — савецкаму салдату.



Вуліца М. К. Складоўскай.



Палац Браніцкіх (адбудаваны пасля вайны) — сядзіба Медыцынскай акадэміі.



Новы раён «Тысячагоддзя» — за шматпавярховымі дамамі пачынаецца Звярынецкі лес.

 




Дзяржаўнае прадпрыемства «Цэнтраля рыбная» ў Беластоку ўрачыста і шумна адсвяткавала нядаўна вялікую перамогу: заваявала яно паўторна першае месца ў агульнадзяржаўным спаборніцтве за найлепшыя вынікі ў продажу рыбы і рыбных вырабаў. З гэтай нагоды былі віншаванні і ўрачыстыя прамовы, міністр суднаплавання ўручыў калектыву беластоцкай «Цэнтралі рыбнай» пераходны сцяг. Некаторым працаўнікам, а ў тым ліку і дырэктарам прадпрыемства, пасыпаліся заслужаныя, грашовыя ўзнагароды.

Свята святам, але як з гэтай рыбай ёсць у будзённы дзень? Колькі яе паяўляецца да абеду, асабліва на сталах у сялян?

Агульна кажучы, жыхары Беласточчыны з'ядаюць апошнім часам крыху больш рыбы, чымсьці жыхары іншых ваяводстваў нашай краіны. Перавага ў карысць аднаго статыстычнага чалавека з Беласточчыны складае зараз больш-менш 1 кг у год. І не адносіцца гэта да раёнаў Беластоцкага ваяводства, дзе шмат азёраў, дзе вялікія рэкі, а наадварот. Статыстыка продажу рыбы паказвае, што найбольш яе купляюць у Гайнаўцы і Гайнаўскім павеце. Вось у мінулым годзе жыхары Гайнаўкі з'елі звыш 400 тон розных рыб і рыбных вырабаў. Найчасцей куплялі яны салёныя селядцы (186 тон), смакавала ім таксама пластуга, галібут і дорш (траска) — іх купілі звыш 130 тон. Апрача жыхароў Гайнаўшчыны рыбу любяць у Беластоцкім, Сакольскім, Бельскім і Сямяціцкім паветах. Там таксама статыстычныя паказальнікі продажу перавышаюць сярэдні ўзровень для ваяводства і для ўсяе краіны.

Рыба, асабліва рыба свежая, тавар вельмі далікатны. Крамы, у якіх іх прадаюць, патрабуюць спецыяльнага абсталявання, а перш за ўсё магутных халадзільнікаў і басейнаў з бягучай вадой. Такіх крамаў нават у павятовых цэнтрах няма. Не мае іх сама «Цэнтра-



ля рыбная», а тым больш не мае такіх крамаў вясковы гандаль, падпарадкаваны для ВЗГС-у. У большасці выпадкаў продаж рыбы вядзецца ў звычайных кіёсках. Так ёсць у Гайнаўцы, Бельску, Саколцы і Чорнай Беластоцкай. Спецыялістычных крамаў — нават кіёскаў — няма ў Сямяцічах, у Міхалове і Гарадку. У Гайнаўцы і Бельску «Цэнтраля рыбная» пачынае сёлета пабудову адпаведных павільёнаў. Будуць яны гатовы за год.

А ў іншых мясцовасцях?

Дырэктар Лідэр бездапаможна раскладае рукі: мы не ў сілах, — гаворыць. — Хай нас выручае вясковы гандаль, значыць ГС-аўскія крамы. Яны ж паклікані дзеля таго, каб абяспечыць сялян усімі таварамі, а ў тым ліку і рыбай.

Сапраўды, вясковы гандаль з'яўляецца сур'ёзным партнёрам для «Цэнтралі рыбнай». Праз яго гандлёвую сетку праходзіць у год больш-менш палавіна ўсёй рыбы і рыбных вырабаў, якія трапляюць на стол жыхароў Беластоцкага ваяводства. «Цэнтраля рыбная» гатова павялічыць удвая пастаўкі рыбы для ВЗГС-у. Вясковыя крамы аднак бароняцца, баяцца гандлёвага рызыка. Вось прыклад: у адну мясцовасць (прасілі, каб яе не называць) шафёр «Цэнтралі рыбнай» даставіў рыбу. Кіраўнічка крамы кажа яму, што прыме для продажу толькі 30 кг дорша. «Чаму так мала?» — здзіўляецца шафёр. «А што? Каб мне папсавалася гэтая вашая рыба? Хто мне тады за яе заплоціць?» — баранілася прадаўшчыца. «Дык я сам стану тут і пачну прадаваць» — рашыў шафёр. Прадаваў толькі дзве з палавінай гадзіны часу і прадаў аж... 400 кг гэтага дорша.

Значыць сяляне любяць рыбу. Напэўна хацелі б часцей мець яе да абеду. Калі ў Нарве ля пошты паявіўся самаход з рыбай, жыхары мястэчка на працягу няцэлых трох гадзін часу купілі аж 365 кг дорша. Вясковыя людзі не хацелі б задавальняцца толькі салёнымі селядцамі, доршам і марожанай пластугай ці галібутам. Яны ахвотна пакаштавалі б свежай плоці, акунька, карпа, і іншай рыбы. На жаль, гэта пакуль што нерэальныя пажаданні. «Цэнтраля рыбная» ўласным транспартам дастаўляе на кірмашы толькі свежага і замарожанага дорша. Іншай свежай рыбы дастаўляць не можа. У кожны аўторак можна такім чынам купіць рыбу на кірмашы ў Гарадку, Нарве, Дуброве і Шчучыне, у сераду — у Міхалове, Едвабным і Рутках, у панядзелак — у Кляшчэлях і Браньску, у чацвер — у Сухаволі, Цеханоўцу і Кнышыне, у суботу — у Супраслі. На гэтых кірмашах кожны тыдзень людзі купляюць амаль 12 тон рыбы. Для параўнання варта ведаць, што вясковы гандаль прадае ў тыдзень толькі 2 тоны рыб, значыць 6 разоў менш.

І зноў знаходзім доказ на тое, што сяляне хацелі б есці рыбу, толькі яна па віне арганізатараў вясковага гандлю у недастатковай колькасці трапляе на іх стол. І як бы не цешыліся дырэктары «Цэнтралі рыбнай» сваім першым месцам, а разам з імі — старшыня ВЗГС-у і кіраўнікі аддзелаў гандлю, як бы не засланяліся сваім заваяваным пераходным сцягам — селянін усіх іх разам паціху і голасна будзе лаяць за недахоп рыбы.

**М. Нурэцкі**

# У Тынявічах гавораць...

...што спулдзельня «Чын» з Гайнаўкі, якая ў мінулым годзе залажыла тут вулічнае асвятленне, паўстаўляла старыя ўжываныя лямпы. Як доказ сяляне прыводзяць той факт, што на 9 заложаных пунктаў 4 зусім паржавелі і ў хуткім часе могуць распасціся. Іншыя лямпы не ржавеюць. Цікава, што на гэта кіраўніцтва спулдзельні «Чын» у Гайнаўцы?

* * *

...Не разумеем, чаму якраз на час жніва і іншых палявых работ наш сельгасгурток мусіць аддаць на кансервацыю — рамонт 2 трактары. Астаецца ў нашым гуртку толькі 3 трактары, якім не пад сілу будзе абслужыць толькі гаспадароў. Ці не маглі б на час рамонту даць нам заступных трактараў? Мы чулі, што так робяць парадачныя рамонтныя станцыі.

* * *

...Ад Майсея Асташэўскага дзяржава ўзяла зямлю за даўгі. Ужо трэці год ляжыць гэтая зямля аблогай, а дзяржава і мы змагаемся за тое, каб мець больш збожжа, каб выкарыстаць кожны кавалак зямлі. Мала таго, на гэтай аблозе расце вельмі буйны чортапалох і іншае пустазелле, якія сваім насеннем засяваюць суседнія палі. Свайго часу перадавік аховы раслін з Тыневіч, Мікола Дудзіч, запрапанаваў аграному, які прыехаў з машынай, каб механічна апрыскаць і знішчыць гэтае пустазелле. «Але хто за гэта заплоціць?» — запытаў аграном.

Сапраўды! А мо адказныя «ўжэнднікі»? Чакаем адказу ад Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы.

* * *

...Прыцізкаюць нас з мінеральнымі ўгнаеннямі. Можа і сапраўды мы крыху адсталыя. Але справа не толькі ў тым. Ёсць нас многа гаспадароў у вёсцы, якім ужо хутка прыдзецца размяняць капу год. На нашыя гаспадаркі выпадае па некалькі тон мінеральных угнаенняў, а рассяваць іх няма чым. Сеўніка не мае ні сельгасгурток, ні спулдзельня прадукцыйная, у якой часта пазычаем машыны. Рассяваць з плахты — страшнавата. Аб гэтым мы гаварылі намесніку кіраўніка аддзела сельскай гаспадаркі Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы, які нас лаяў за тое, што мала купляем мінеральных угнаенняў. Адказ яго быў такі: «Што мы зробім, якасьці рассеецe». Нас аднак гэта не пераконвае.

Нас таксама.

* * *

...У Малых Тыневічах не было ніякай культурна-асветнай пляцоўкі. Ад вясны гэтага года дзейнічае тут клуб «Рух». Ініцыятыва аб адкрыцці клуба выплыла ад мясцовай партыйнай арганізацыі, а перш за ўсё яе былога сакратара М. Дудзіча. Клуб змяшчаецца ў прыватным нанятым памяшканні і цешыцца папулярнасцю сярод моладзі і старэйшых. У хуткім часе будзе закуплены тэлевізар, на які ГРН у Кленіках прызначыла ўжо 5 тыс. зл.

Запісаў **А. К.**

КРЫМІНАЛЬНЫ КОДЭКС

# АСНОЎНЫЯ КАРЫ

Мы ўжо пісалі, што новы крымінальны кодэкс, які будзе прымяняцца ад 1. І. 1970 года, уводзіць многія інстытуты, якія служаць выхаваўчым мэтам без пазбаўлення свабоды. Аднак у выпадках цяжкіх злачынстваў, як напрыклад хуліганства, забойства, скалечанне, большыя пакражы і гд. неабходна прымяняць больш вострыя меры.

Асноўнай карай прадугледжанай крымінальным кодэксам з'яўляецца пазбаўленне свабоды. Яна ўведзена замест папярэдніх караў турмы і арышту, якія па сутнасці нічым ад сябе не адрозніваліся.

Кара пазбаўлення свабоды працягваецца ад 3-х месяцаў да 15 год. Новы кодэкс не ўжывае кары пажыццёвага зняволення. Замест яе ўведзена кара 25 год пазбаўлення свабоды.

У выпадках выключных ужываецца кара смерці. Не можна прыгаворваць на гэту кару непаўналетняга да 18 год і цяжарную жанчыну. Аб выключным характары кары смерці сведчыць і тое, што справы за злачынства, пры якіх пагражае гэта кара, разглядаюцца судом у пабольшаным складзе: двух суддзяў і трох засядацелей.

Асноўнай мэтай кары пазбаўлення свабоды з'яўляецца фармаванне грамадска пажаданай паставы прыгаворанага, асабліва павучэнню грамадска карыснай працы. Пагэтаму ўстановы, у якіх адбываюцца кары розныя. Выканаўчы крымінальны кодэкс прадбачыць аж сем відаў крымінальных устаноў: пункты працы, нармальныя крымінальныя ўстановы, дачасныя крымінальныя ўстановы, крымінальныя ўстановы для юных, крымінальныя ўстановы для рэцыдывістаў, установы для патрабуючых сродкаў лячэбна-выхаваўчых і крымінальныя ўстановы для вайсковых.

Асноўнай карай можа быць таксама штраф ад 500 да 25 000 зл. Незаплачаны штраф, калі ён перавышае 1000 зл., замяняецца на пазбаўленне свабоды ў разліку ад 50—150 зл. за адзін дзень.

У адносінах да юных ад 17—18 год суд замест прадбачаных кодэксам кар можа прымяніць выхаваўчыя сродкі, як, напрыклад, адказны нагляд школы, судовага куратара, бацькоў, або можа загадаць умяшчэнне ў адпаведнай выхаваўчай установе.

**Юрыст**

# Набліжаецца жніво

Закончыліся ўжо сенакосы. Сяляне вёскі Міклашэва, што ў Гайнаўскім павеце, касілі сена ў асноўным касілкамі. Ёсць іх у вёсцы 11 штук. Тры трактары сельскагаспадарчага гуртка і 28 конных касілак прыватных. Набліжаецца ўжо ўборка хлеба. Ва ўсіх 11-ці ўспомненых касілках пераменіцца спецыяльныя прылады і яны будуць служыць жнярнкамі. І ўжо гэтыя машыны падрыхтаваны да жніва. Падрыхтавалі сяляне таксама косы, таму што яны дзенебудзь яшчэ прыдадуцца. Адным словам жыхары Міклашэва добра падрыхтаваліся да ўборкі хлеба. (МХ)

**Чэрць стагоддзя назад**




(3)

**Генерал арміі**

**П. І. БАТАЎ**

**Двойчы герой Савецкага Саюза**

Аказваецца, да нас ужо спешна накіроўваўся з арміі Раманенкі 53-і стралковы корпус генерал-лейтэнанта Івана Аляксеевіча Гарцава і 17-ая танкавая брыгада Данскога корпуса, якая знаходзілася на перафарміраванні. Гэтыя сілы мелі падысці ноччу.

У застаўшыеся гадзіны мы безупынна трымалі сувязь з камандзірамі корпусаў. Усе таварышы дакладвалі спакойна. Прайшла нервовасць, выкліканая ашаламляючым ударам танкаў. Іванова выручылі твардзейцы 37-й. Яны прарваліся да каманднага пункта корпуса і памаглі выйсці з акружэння. Потым, калі на справаздачныя карты корпусаў быў нанесены ўвесь ход падзей за 23 ліпеня і атрыманы данясенні, стала ясна, што артылерысты 37-й гвардзейскай памаглі і нам з Радзецкім.

Пры з'яўленні танкаў у раёне Краснае Сяло камандзір дывізіі вырашыў тэрмінова перакінуць асобны гвардзейскі супрацьтанкавы дывізіён з Чаромухі на безыменныя вышыні на поўнач ад Кляшчэляў і агнём прыкрыць дарогі. Артылерысты ішлі на вялікай хуткасці. На галоўнай машыне быў камандзір дывізіёна гвардыі маёр Клімаў. Але танкі праціўніка ў гэты час ужо прарваліся да вышынь. Дывізіён Клімава ўрэзаўся ў баявыя парадкі праціўніка. Танкі вядуць агонь. Дзве гарматы 1-й батарэі выведзены са строю, камандзір дывізіёна кантужаны. Усё гэта здарылася на вачах камандуючага артылерыяй дывізіі гвардыі маёра Мікалая Мікіціча Лухты, які следам за знішчальнікамі выводзіў на новыя агнявыя пазіцыі артылерыстаў 86-га гвардзейскага стралковага палка.

— Да бою! — скамандаваў ён.

Артылерысты разгарнулі пушкі проста на дарозе. Яны расстрэльвалі ворага ва ўпор. Гарэла пяць варожых машын. На грэбень вышыні выпаўзаюць новыя танкі. Убачыўшы долю талаўных машын, нямецкія танкісты паварочваюць назад. Праціўнік пусціў у абход артылерыстаў групы аўтаматчыкаў. Ля тармат засталіся адны наводчыкі, усе апошнія салдаты ўступілі ў бой з нямецкай пяхотай. Адбіта і гэта атака. Зноў з'явіліся танкі. Так працягвалася амаль дзве гадзіны, пакуль праціўнік не адказаўся ад сваёй задумы выйсці да Кляшчэляў найкарацейшым шляхам. Мужнае супраціўленне гвардзейцаў намнога затрымала прарыў нямецкіх танкаў. Праціўнік вымушаны быў абыходзіць артылерыйскія батарэі па лясных дарогах. Таму ля Кляшчэляў з'явілася спачатку толькі некалькі нямецкіх машын. Адна з іх і абстраляла нашу тэлеграфную ўстаноўку.

Колькі подзвігаў было завершана ў гэты цяжкі дзень у войсках. Аб іх памятаюць ветэраны 65-й арміі. Са шматлікай перапіскі з баявымі сябрамі прывяду пісьмо палкоўніка М. І. Мельчакова, былога афіцэра кіравання 105-га стралковага корпуса. У ім апісаны подзвіг афіцэра сувязі старшага лейтэнанта Калеватых і радавога Карымава.

«...Поўдзень 23 ліпеня 1944 года. Старшы лейтэнант Васіль Іванавіч Калеватых толькі што вярнуўся з 354-й стралковай дывізіі. Саскочыўшы з трафейнага варанога жарабца, падаранага яму начальнікам разведкі дывізіі, афіцэр на хаду перадаў повады радавому Карымаву. З машыны выйшаў камандзір корпуса генерал Аляксееў. Ён толькі што закончыў перагаворы па радыё з камандуючым войскамі арміі.

— А, казачок! — па-бацькоўску цёпла сказаў генерал. — Змучыўся? Адпачыць бы трэба, але ёсць вельмі важны загад камандарма... Дай-ка тваю карту.

Камандзір корпуса, начальнік штаба і афіцэр сувязі схіліліся над картай. Які мудрагелісты стаў фронт! Умяціны ў баявых парадках, вострыя вуглы цягнуліся па ўзгорках, схілах вышынь і ішлі да ракі Заходні Буг, дзе ў паўакружэнні білася 44-я гвардзейская.

Прывычным рухам камандзір корпуса нарысаваў некалькі ўмоўных тактычных знакаў. У раёне Сямяціч знаходзіцца камандны пункт генерала Барысава. Сувязі з ім няма. Заданне: знайсці генерала і перадаць яму баявы загад. «Любой цаной», — сказаў камандзір корпуса, глянуўшы на хударлявы абветраны твар афіцэра сувязі.

Калеватых спрытным рухам накінуў на валатоўскія плечы плашч-палатку. — Дазвольце выконваць?

Камкор і начальнік штаба ўсміхнуліся: «Загарэўся казачок». Генерал Аляксееў цаніў старшага лейтэнанта не толькі за тое, што ён мог у любых абставінах ляцець з баявым загадам, як гавораць, «алюр, тры крыжы». Афіцэр сувязі меў шырокі ваенны кругагляд, быстра арыентаваўся ў абставінах і заўсёды ясна дакладваў карціну бою.



 

З праблемаў нацыянальнага школьніцтва 2)

# АЦЭНКІ

Знаёмім чытача з другім матэрыялам прысвечаным нацыянальнаму школьніцтву ў Беластоцкім ваяводстве. У сённяшнім адпускаем месца ацэнцы ўзроўню дыдактычна-выхаваўчай працы пачатковага школьніцтва. Напамінаем адначасова, што матэрыял, якім карыстаёмся, апрацавала Куратoрыя беластоцкай акругі і што быў ён прадметам аналізу Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП.

* * *

Генеральна беручы параўнанне вынікаў навучання ў нацыянальных школах са школамі, дзе выступае толькі польская мова, цяжкае. Можна аднак сцвердзіць, што заданні пастаўленыя V з'ездам ПАРП знайшлі поўнае зразуменне сярод настаўнікаў нацыянальных школ. Сцвярджаецца сур'ёзную дыферэнцыяцыю адносна якаснага боку працы, паасобных школ, дыспрапорцыі ў іх навуковым і выхаваўчым узроўні.

Назіраецца далейшае паляпшэнне паказчыкаў, калі разыходзіцца аб перавод у наступны клас, у школах арганізуючых навучанне айчыннай мовы. Гэтыя паказчыкі ў асноўным не горшыя, чым у пачатковым школьніцтве ваяводства. Калі ў 1967 г. сцвярджалася, што перавод у наступны клас у пачатковых школах ваяводства атрымала **93,0%** вучняў **(у беларускім 92,6%, літоўскім — 91,3%, украінскім — 89,6%)**, дык у 1968 г. выглядала тэта наступна:

— ваяводскі паказчык — **93,0%**.

— паказчыкі ў паветах: **Беластоцкі — 92,7%, Бельск Падляшскі — 91,8%, Гайнаўскі — 93,1%, Сямяціцкі — 92,5%, Сакольскі — 91,4%, Сейненскі — 90,9%, Галдапскі — 91,2%.** Спраўнасць навучання брута ў пачатковых школах вышэй успомненых паветаў у гэтым жа 1968 годзе складала: у Беластоцкім — **82,1%**, Бельскім — **75,4%**, Гайнаўскім — **83,0%**, Сямяціцкім — **75,2%**, Сакольскім — **78,9%**, Сейненскім — **73,5%** і **68,5%** у Галдапскім пры сярэдняй ваяводскай — **79,5%**.

Прыведзеныя даныя гавораць аб разнастайнасці паказчыкаў і пацвярджаюць неабходнасць ліквідацыі дыспрапорцыі працы паасобных школ. Патрэбу мабілізацыі намаганняў многіх школ дыктуе аналіз уступных экзаменаў абсальвентаў нацыянальных школ у сярэднія школы. Аналіз напр. **уступных экзаменаў** (у 1968 г.) **у беларускі ліцэй у Гайнаўцы** дазваляе выцягнуць наступныя сцверджанні:

— калькасць кандыдатаў, якія хочуць паступіць у ліцэй, ад некалькіх год вельмі нізкая. Асабліва мала кандыдатаў стараецца паступіць у першым тэрміне. У асноўным складаюцца яны з моладзі, якая асягнула толькі здавальняючыя вынікі ў навуцы.

— на пісьмовых уступных экзаменах па матэматыцы не павялося аж 69 кандыдатам (52,6% здаючых), па польскай мове — 19 (14,3%) і па беларускай мове — 42 (31,6%).

Гэткае становішча патрабуе канцэнтравання намаганняў зацікаўленых устаноў над прапагаваннем гэтага ж ліцэя сярод больш здольнай беларускай моладзі.

Праведзеныя візітацыі прыносяць спасцярогі, што моладзь з нацыянальных школ мае цяжкасці з польскай мовай. Аднак гэтага нельга генералізаваць, бо, напрыклад, школы з Новага Астраўка і Гуранаў асягаюць станоўчыя вынікі. Паводле ацэнкі настаўнікаў польскай мовы нацыянальных школ, гэтыя цяжкасці вынікаюць перш за ўсё з таго, што вучні пасля школьных занядкаў гавораць выключна на беларускай мове, а яшчэ часцей рэгіянальным дыялектам. Спасцярогі з візітацыі некаторых нацыянальных школ даводзяць, што іх вучні слаба ведаюць польскую тэрміналогію. Асабліва гэта адчуваецца пры пераходзе вучняў з нацыянальных школ у школы, дзе выступае толькі польская мова. Перашкоды гэтага характару ў асноўным перамагло беларускае школьніцтва, у якім ад некалькіх год жыццёвая практыка стварыла новы тып пачатковай школы. Ёсць гэта школы, у якіх у першых і часткова ў другіх класах асноўнае месца займае беларуская мова, а ў вышэйшых класах — польская мова. Дзіця пачынае навуку на роднай мове, а потым па меры авалодання беларускай мовы паступова пераходзіць на польскую мову, каб урэшце ўвайсці ў школы вышэйшай ступені, якія вядуць заняткі на польскай мове.

Асноўнае заданне нацыянальных школ — даць магчымасць вучням пазнаваць, апекавацца і шанаваць родную культуру. Гэтае заданне рэалізуецца перш за ўсё ў лекцыйным працэсе, а яго прадаўжэнне на пазалекцыйных занятках не мае яшчэ большых арганізацыйна замкнутых форм. Што праўда, сустракаецца ў нацыянальных пачатковых школах працу мастацкіх гурткоў, аднак адчуваецца недахоп сістэматычна запраграмаваных прац у галіне пазнавання і дагляданне традыцыі рэгіянальнай народнай культуры.

Апрацаваў: **А. Карпюк**



**Танцавальны калектыў пры падставовай школе ў Банях Мазурскіх. Кіраўнік — Анна Гнацюк.**

**(З агляду самадзейных калектываў нацыянальных меншасцей у Беластоку).**
Фота Цаф — Сянько

## У СКЛАДЗЕ БЕЛЬСКАГА ХОРА...

Аж з дзесяці розных устаноў Бельска і яшчэ з дзвюх вёсак ходзяць людзі ў хор Бельскага аддзела БГКТ.

Вось яны ўстановы: Цэнтр «Практычна пані», ПЗГС, Яйчарня, Спулдзельня інвалідаў «Пшышлосць», ВСС, Павятовая камендантура МО, Раённае тэлекамунікацыйнае ўпраўленне — РУТ, Рашарня, Пункт цэпэліі, Бельскае будаўлянае прадпрыемства, вёскі Дубяжын і Мокрае.

Кіраўнікі і дырэктары ўсіх успомненых прадпрыемстваў не робяць ніякіх перашкод харыстам, калі ім трэба сабрацца на экстра выступленне ці экстра рэпетыцыю. Бельскі хор усё больш стаецца хорам усяго горада. (вл)




# ПАМІЖ БЕЛАСТОКАМ І КРУШЫНЯНАМІ

Павялічваецца ў краіне цікавасць да Беласточчыны. Прычыны таго розныя. Адна з прычын напэўна такая, што наогул павялічваецца турыстычны рух. Штораз больш людзей праводзіць свой вольны час у пазнавальных падарожжах. Гэта відаць асабліва ў летні перыяд, у час водпускаў ды канікулаў.

Беласточчына прыцягае сваімі помнікамі прыроды: Белавежскай пушчай і паўночнымі азёрамі. На тых трасах найчасцей можна сустрэць аўтобусы з надпісамі «экскурсія». Глыбей зацікаўленыя Беласточчынай ведаюць пра татар і абавязкова хочуць пабачыць мячэць у Крушынянах або ў Багоніках пад Саколкаю.

Гаворым аб экскурсіях. Групкі людзей з цэлай Польшчы, якія даволі няўважліва слухаюць тлумачэнняў праваднікa беластоцкага ПТТК, бачыў я не раз. Пераважна, ля касцёлаў і цэркваў, ну, палаца Браніцкага, часамі ля варот Фастаўскага камбіната... Спяшаюць, каб хутчэй апынуцца ў легендарнай Белавежы або пасярод пагоркаў сінеазёрнай Сувальшчыны, абспяванай ды абхваленай на эстрадах, па-радыё, тэлевізіі.

Давялося мне сутыкнуцца з экскурсіяй, якая выбралася ў Крушыняны. Выбралася туды таму, што там мячэць і татары, і яшчэ таму, што пра мячэць і татараў чыталі ў варшаўскіх часопісах. Экскурсія зацікавілася татарамі, а я зацікавіўся экскурсіяй. Праваднік беластоцкага ПТТК расказваў і расказваў, добра і жыва. І вось першы раз пачуў я, пачулі ўсе, як беластоцкі праваднік сказаў варшавянам пра беларусаў. Сказаў мімаходзь, як бы незнарокам, кораценька: ёсць беларусы, ёсць у шасці паветах... пералічыў, у якіх. Кораценька, як бы мімаходзь... Ды тыя сухія словы выбухнулі бы сенсацыя!

На жаль, праваднік, відаць, няшмат больш чаго ведаў. Ён і так сказаў больш, чым у турыстычных інфарматарах напісана, бо... не напісана ў іх ні слова пра тое. Кіраўнік варшаўскай экскурсіі выпадкова меў у Беластоку знаёмага, родам з Сакольшчыны, які выручыў праваднікa.

Аўтобус з надпісам «экскурсія» імчыць у напрамку Саколкі, да Крушынянаў дзесяткі кіламетраў, восемдзесят, восемдзесят пяць-дзевяць. Знаёмец варшаўскага кіраўніка талкуе людзям непрывычным толасам: «Выязджаем з Пукштэльскай пушчы... перад намі Саколка, дзе працаваў начальнікам егерскага вучылішча Валерый Врублеўскі, будучы генерал Парыжскай камуны... саратнік Кастуся Каліноўскага... недзе ў гэтых лясах выдавалі «Мужыцкую праўду», беларускую паўстанцкую газету... беларусы і палякі ўзняліся супроць царызму ў 1863 годзе... вёскі беларускія... рэвалюцыйныя традыцыі... у трыццатыя гады вядомая забастоўка... Грамада... Валошын!..»

Аўтобус гудзіць, не ўсе чуюць, што гаворыць праваднік — аматар, гора-праваднік, без пастаўленага толасу, без практыкі, збянтэжаны сваёй функцыяй. Аўтобус гудзіць, варшавяне дапытваюцца: а як? а калі? а ў якім месцы? Галавы гуртам паварочваюцца то ў адзін, то ў другі бок. Тут быў Врублеўскі? Што гэта: Грамада? Праз Крынкі праходзіў шлях з Літвы ў Карону?

Пытанні і шчырае зацікаўленне.

Слухаючы і гледзячы я нечакана, зусім нечакана, усведаміў сабе, проста адчуў праз скуру марнатраўства, якога мы дапускаемся, мы ўсе, ПТТК таксама. Вось яно, гэтае марнатраўства: землі польска-беларускага пабрацімства, супольнасці, землі не адгароджаныя замежнымі пашпартамі. Шмат месц, дзе адбыліся факты, аб якіх поўна слоў нават у школьных падручніках. Прытым, мімаходзь як бы кажучы, землі прыгожыя, краявіды нязвыклыя, якімі захапляўся пакойны прафесар Славінскі, слава беластоцкай навукі. Стоячы над магілай прафесара Славінскага ў Супраслі, у цудоўнай даліне, дзе пахавана яго згодна з ягонай апошняй воляй, праваднік-прафесіянал, той з ПТТК, выклікаў большае зацікаўленне да прэтэнцыёзнай магільні фабрыкантаў Бухгольцаў. Таленавіты праваднік, і ад таго мая прэтэнзія да яго за тое, што не зрабіў, што мог, не перадаў нашай прыгожасці, расказваў варшаўскія анекдоты варшавянам! Аднаго «Люду беларускага» Фэдэроўскага, кашуба з-пад Быдгашчы закаханага ў Сакольшчыне, хапіла б праваднікy на цэлы год анекдотаў, прымавак, былін не стэрэатыпных... не ідыятычных, шчыра кажучы, але жывых, нашых.

Нам, на месцы, можа выдавацца ўсё навакольнае мала цікавым. Аб тым, што мы не ведаем пра сваё, можна пераканацца знайшоўшыся сярод людзей з цэнтральнай Польшчы. Трэба было бачыць, як варшавяне перасталі нудзіцца на нецікавай нам Сакольшчыне і прытым з праваднікoм-аматарам. А мо' перш за ўсё таму?

**К. Янкоўскі**

Верным яго спадарожнікам у цяжкіх справах быў радавы Карымаў, татарын па нацыянальнасці.

І вось баявыя сябры імчацца на сваіх конях. Ззаду засталіся разваліны нейкага мястэчка. Праехалі добрую палову дарогі. Хутка Мілейчыцы, а там за бярозавымі лясамі — Сямяцічы... Нечакана доўгай чаргою застрачыў кулямёт. На дарозе выбухі мін і снарадаў. Коні кінуліся ўбок. Дзе свае, дзе ворагі — не сцяміш. Здаецца, камандны пункт гвардзейцаў недзе блізка. Спераду грузавыя машыны, пакрытыя брэзентам. Карымаў сказаў: «Не нашы». І ў той жа момант конь Калеватых упаў на пярэднія ногі. З лесу злева біў нямецкі кулямёт. Афіцэр паранены ў нагу. Раздроблена косць. З лесу бягуць пяцёра немцаў. Карымаў прылёг за забітым канём і з аўтамата адкрыў агонь па фашыстах. Дваіх ён забіў напавал, астатнія адскочылі. Паўзком салдат адыходзіць да лесу, цягне на сабе афіцэра. Схаваліся ў густых карчах. Немцы не праследуюць.

Па лесе ісці спакайней. Але Карымаў таксама быў паранены. Гімнасцёрка прасякнула крывёю.

Спераду зноў страчыць кулямёт. Прыслухаўся. Па гуку пазнаў — свае. Але несці афіцэра ўжо няма сіл, шмат страціў крыві, кружылася галава. Супольна вырашылі: Калеватых застанецца ў лесе, замаскіруецца ля дзвюх вялікіх бяроз. Карымаў возьме загад і прабярэцца да сваіх, за дапамогай.

Аказалася, што гвардзейцы былі зусім блізка. Выйшаўшы на ўзлесак, салдат трапіў проста на агнявую пазіцыю артылерыйскай брыгады. Адзін з афіцэраў узяў ад Карымава пакет і паімчаўся да камдыва. За старшым лейтэнантам Калеватых паслалі двух салдат. Прынеслі, аказалі медыцынскую дапамогу, накіравалі ў медсанбат. Неўзабаве ад камдыва вярнуўся афіцэр. Сувязному было загадана перадаць камандзіру корпуса, што загад атрыман. Дывізія ноччу пачне выходзіць на вызначаны рубеж. Карымаву далі каня, і ён паскакаў. Едучы назад салдат нарваўся на засаду. Аб смерці героя гвардзейцы даведаліся толькі ноччу, калі знайшлі пры адыходзе яго цела.

Вось усё, што мне вядома аб гэтых героях. Яны выконвалі загад камкора цаной крыві і жыцця. Карымава мы пахавалі з гонарамі і пасмяротна прадставілі да ўзнагароды.

24 ліпеня стралковыя корпусы І. А. Гарцава і Д. Ф. Аляксеева ва ўзаемадзеянні з 17-й танкавай брыгадай разграмілі немцаў пад Кляшчэлямі і за два дні баёў аднавілі ранейшае становішча войск арміі. Вораг страціў звыш 40 танкаў, да 50 гармат і звыш 5 тысяч салдат і афіцэраў, але яму ўсё ж удалося вывесці на Бельск частку баявой тэхнікі і штабы злучэнняў. Рэшта сіл высокалітоўскай групіроўкі адышла па дарозе на Драгічын.

Заходні Буг нашы дывізіі фарсіравалі з ходу.

**(«У паходах і баях»)**

КНІЖКІ

## СЯЛЯНЕ І МАГНАТЫ

Кніжка мінскага даследчыка А. Сарокіна аб праблемах вёскі на Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд (Аграрный вопрос в Западнай Белоруссйй Минск 1968,) належыць да кніжак напісаных салідна са сцісла навуковым падыходам. Вывучэнне аграрнай праблемы на Заходняй Беларусі мае вялікае значэнне для зразумення прычын узнікнення і вялікага размаху рэвалюцыйнага руху на гэтай тэрыторыі. Класавыя канфлікты пакрываліся тут з канфліктамі нацыянальнымі. З прыведзеных Сарокіным дадзеных вынікае, што 84,4 працэнты вялікіх гаспадарак было ўласнасцю абшарнікаў польскай нацыянальнасці. Кніжка багатая шматлікімі статыстычнымі дадзенымі сабранымі яе аўтарам пераважна ў архівах Польшчы.

Кніжка А. Сарокіна насоўвае пэўную заўвагу. Аўтар абмяжоўваецца ў ёй толькі да аналізу статыстычнага матэрыялу з тэрыторыі Заходняй Беларусі ўспамінаючы толькі агульна аб палітычных і гаспадарчых падзеях, якія адбываліся ў той час у маштабах усяе Польшчы. Для гісторыка было б цікавым і павучальным параўнанне падрабязных статыстычных дадзеных з паасобных раёнаў Заходняй Беларусі з дадзенымі ў адносінах да ўсяе краіны. Такое параўнанне дазволіла б сарыентавацца, у якой ступені сітуацыя сельскай гаспадаркі і эканамічныя працэсы вызначалі палітычныя падзеі на Заходняй Беларусі, а ў прыватнасці вялікі рэвалюцыйны ўздым народных мас, а ў якой залежнасці яны былі ад іншых фактараў — як хаця б палітычная, культурная і рэлігійная дыскрымінацыя беларусаў. (п)




## ДАВОЛІ АДНОЙ ЗАПАЛКІ!

Пасля забойства пастара Марціна Кінга, апостала неграў у Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі, у многіх гарадах гэтай вялікай і багатай краіны разгарэлася амаль паўстанцкая вайна негрыцянскага насельніцтва за свае грамадзянскія правы. Гарэлі будынкі, гінулі людзі...

Расследванне падзей паказвала на тое, што гэта была арганізаваная барацьба. Журналісты вядомай амерыканскай газеты «Уошынгтон пост» спрабавалі пашукаць кантактаў з негрыцянскай сеткай. Заняло ім гэта чатыры месяцы часу. Нарэшце дайшло да сустрэчы журналіста газеты з групай арганізатараў. Усё адбылося ў строга канспіратыўных умовах.

Журналіст пацікавіўся спосабамі падпалаў. Як гэта робіце? Адказалі яму: наліваем бензін у шкляное або пластыкавае начынне, прымацоўваем да яго лёгкапальны матэрыял і запальваем. Агонь з'яўляецца чымсьці такім, што робіць найбольшае ўражанне таму, што яго лёгка прымяняць. Даволі адной запалкі! Бо калі б ваяваць карабінамі, то нашы негры сказалі б: «К чорту, мы ж мала маем іх!»

Арганізатары падпалаў сказалі далей: хочам знішчыць сістэму. Гэта сістэма нішчыць народ наш, кідае яго ў абдымкі нечалавечага ўціску. Перажываем гэта ўжо ад 413 гадоў. Пастар Кінг, кароль міласэрнасці, забіты, бо праклямаваў ён любоў да ўсіх. І што сталася з ім? Нейкая белая бестыя прастрэліла яму галаву! Забіта яго таксама і таму, што ён атакаваў мілітарызм. Пачалі яго ненавідзець, калі выступіў супроць вайны ў В'етнаме. Белыя з поўдня дазвалялі яму дзейнічаць нават у абароне грамадзянскіх правоў неграў. Але, калі стаўся ён постаццю міжнароднага значэння, дык гэта краіна не магла таго ўжо перанесці. Загінуў так, як загінулі Мэлькалм, правадыр «Чорных мусульман», як Кенедзі і іншыя.

Зразумейце, што амерыканская эканоміка ўжо да таго звязалася з в'етнамскай вайной, што калі б спыніць яе, краіне пагражае гаспадарчы крызіс.

Усе белыя — гэта бестыі. Мы, негры, не памятаем нічога добрага ад белых праз усю сваю гісторыю. І таму, калі ў чалавека адкрыты розум, ён не паддасца прапагандзе белых. Разважыць ўсё і, калі ўсё добранька разважыць, дык дойдзе да вываду, што адзіным выйсцем з'яўляецца заставацца чорным. Наш ратунак ў рэвалюцыі, і мы яе зробім. Гевара сказаў: «У рэвалюцыі можна толькі або перамагчы, або загінуць». Гевару не ўдалося, ён загінуў.

Зрэшты, белы чалавек сам папіхае нас наперад. У 1960 годзе, калі пачаўся наш рух, было мала чорных барацьбітоў. А цяпер? Чорныя людзі ўзбройваюцца масава.

Чаму хочаце знішчыць белага чалавека? Так запытаў журналіст «Уошынгтон пост». Сам негр. Адказалі яму: не толькі за тое, што вырабляе ў краіне нашай. Трымае нас ва ўціску, нягледзячы на тое, што сто гадоў таму назад сказаў — вызвалю вас. Не вызваліў, мы ўсё яшчэ нявольнікі. Белы чалавек робіць з нас жывёліну.

Прыблізна, столькі расказалі журналісту негрыцянскія канспіратары ў Злучаных Штатах. Словы, аж перапоўненыя нянавісцю, яскрава малююць нам праўду пра амерыканскую рэчаіснасць, праслаўленую дэмакратыю, у якой той толькі мае рацыю і правы, хто мацнейшы, мацней б'е.

У Штатах жыве каля дваццаці мільёнаў негрыцянскага насельніцтва, колішніх нявольнікаў, завезеных сюды з Афрыкі на плантацыі Вірджыніі і цэлага Поўдня. Зараз у жыццёвай сітуацыі тых няшчасных людзей няшмат добрага прыбыло. Яны надалей нявольнікі, надалей цяжка атрымаць ім якуюнебудзь працу, адукацыю, не гаворачы ўжо пра авансы. Чорныя канспіратары пагражаюць пераўтварыць ў многа в'етнамаў рэгіёны, дзе перавага таго насельніцтва. Разня вісіць на валаску. (а-ся)






**«УСХОД ЗЯМЛІ» НА МЕСЯЦЫ**

**Так выглядае наша зямля, калі на яе глядзець з месяца. Сфатаграфавалі яе амерыканскія астранаўты карабля «Апалон — 10».**

ЛЕКАР ПРЫРОДА

## ЛЁН ЗВЫЧАЙНЫ

Прыгодзен не толькі для вырабу прыгожых сукенак, абрусаў, парцьераў.

У народнай медыцыне адвар яго п'юць, а таксама ядуць семя пры язве страўніка, гастрыце, хваробе нырак, белакроўі, цяжкім дыханні. Семя парац і прыкладаюць да нарываў, абмарожаных месц.

У аптэчнай практыцы семя лёну выкарыстоўваюць для атрымання слабіцельнай слізі, а льняное семя ў парашках ці льняны жмых — для прыпарак.

МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

## Хвост сем метраў

Ад стагоддзяў на японскім астраўку Шыкоку гадуюцца пеўні з незвычайна доўгімі хваставымі пер'ямі. Калісьці гэтыя пер'і служылі для ўпрыгожвання самурайскай зброі, сёння гэта ўжо арыгінальная традыцыя. Зразумела, пеўні належаць да спецыяльнай расы, ды і іншыя таксама метады гадоўлі. Між іншым, пеўняў трымаюць праз увесь амаль дзень у цемры, у вузкіх, цесных клетках.





**Адышт негрыцянскага дзеяча.**




## ЯЛАВІЧЫНА, ТУШАНАЯ ПА-РУСКУ

Кавалкі ялавічыны, адрэзаныя ад задняй нагі або лапаткі, ачысціць ад сухажылляў, нарэзаць упоперак валокнаў шырокімі лустамі, запаніраваць у пшанічнай муцэ і абсмажыць з абодвух бакоў, пакуль не ўтворыцца румяная скарынка.

На дно сатэйніка пакласці тонкія кавалачкі свінога сала, а на яго — кавалачкі абсмажанага мяса, засыпаць іх рэпчатай цыбуляй, морквай і сельдэрэем, нашаткаванымі саломкай, пасаліць, дадаць жытні хлеб, парэзаны на дробныя кубікі, лаўровы ліст і буйна размолаты чорны перац. Зверху пакласці другі слой кавалкаў абсмажанага мяса, пакрыць яго гароднінай, хлебам і спецыямі. Заліць карычневым булёнам так, каб ён толькі пакрыў верхні слой мяса, і на пліце давесці да кіпення.

У духоўцы тушыць да татоўнасці. На гэта спатрэбіцца 2—2 1/2 гадзіны. За 25—30 мінут да канца цеплавой апрацоўкі дадаць смятану.

Тушаную ялавічыну падаюць з гароднінай і соусам, які ўтварыўся ў час тушэння, пасыпаюць зяленівам. Гарнір-вараная бульба.

На 600 г ялавічыны — 1 ст. лыжка пшанічнай мукі, морква, сельдэрэй, кавалачак жытняга хлеба, 60 г сала, 2 ст. лыжкі свінога тлушчу, 2 шклянкі булёну, 1 ст. лыжка смятаны, перац гарошкам, лаўровы ліст, зяленіва.

АЛЯКСАНДРА УС, АЛЕНА УЛАДЗІМІРАВА




## ФРОСЯ — ФРОСЕЧКА

Фрося Калбеева...

Хто яна, адкуль? У Першай Савецкай бальніцы ніхто не ведаў. Прыйшла аднойчы, папрасілася: «Вазьміце на работу. Буду рабіць усё, што трэба». Худзенькая, абарваная — відаць, далёкую і нялёгкую дарогу прайшла, адны толькі вочы... Непрыкметна прыжылася ў бальніцы, і здавалася, што ўсё сваё жыццё яна даглядала раненых і хворых, абмывала і перавязвала, суцяшала і падбадзёрвала. І, здавалася, нічым іншым ніколі не займалася.

Толькі потым ужо, калі пазнаёміліся бліжэй, Фрося сказала па сакрэту, што яна юрыст па адукацыі, працавала ў заходніх абласцях Беларусі, ішла на ўсход, да сваіх, і апынулася тут, у акупіраваным Мінску...

На помніках героі заўсёды высокія, дужыя, прыгожыя. Твары іх у бронзе і ў мармуры дыхаюць сілай і мужнасцю... Фросі прырода пашкадавала моцы і здароўя, ды і хараства адпусціла не поўнаю мерай. Цяжкая хвароба з дзяцінства гнула і ламала яе. Але, пэўна, схамянулася ў самую апошнюю хвіліну прырода і дала ёй іншы дар — такую душэўную сілу...

...Ну, яшчэ некалькі крокаў. Яшчэ. Засталося мо якога паўкіламетра да горада, і потым можна ўжо ісці больш-менш спакойна ды і прысесці на хвіліну на якую лаўку. Так нясцерпна баліць нага. Здаецца, каб хоць крышачку выцягнуць яе, а потым можна зноў ісці. І што гэта з ёю сёння? Колькі разоў вярталася вось гэтак з лесу, з гэткім жа «грузам», і ніколі яшчэ не адчувала такой стомы. А можа тое, што прайшло, заўсёды здаецца лягчэйшым?

Але трэба ісці, ісці...

Ён вырас перад ёю як з-пад зямлі. Стаў на дарозе, раскінуў рукі і дыхнуў у твар агідным перагарам шнапсу.

— Паненка, паненка...

«Паненка» кінулася ў адзін бок, у другі, паспрабавала нават прабегчы крокаў дзесяць па дарозе. Ды дзе там, з хворай нагой! Здаравенны салдат у тую ж хвіліну дагнаў яе, вось-вось абхопіць сваімі лапішчамі і з вясёлым рогатам пацягне ўніз, да пералеску.

— Чакай, пан! Чакай! Ці ж гэта можна? Пойдзем дадому. Нах хаус! Разумееш?

— А-а, нах хауз!

Заківаў галавою, заўсміхаўся і пайшоў за ёю ўслед.

А за пазухай — рэвальвер... А пад бялізнай — лістоўкі, газеты... Што рабіць? Што рабіць? Яны ішлі праз разбураны горад, ішлі даволі доўга — здаецца, бясконца. Яна кружыла і кружыла па вуліцах, і салдат ужо нешта пачаў хмурыцца, нешта нездаволена бурчаў сабе пад нос.

— Зараз, пан, зараз прыйдзем.

Ужо разліліся над горадам прыцемкі. Контуры руін і пустыя, счарнелыя вокны абгарэлых «карабкоў» здаваліся, як ніколі раней, жудаснымі. Зрэдку трапляліся прахожыя — людзі спяшаліся дадому: хутка каменданцкі час. А яна ўсё вяла і вяла яго і ўсё яшчэ не ведала, што зробіць у апошнюю хвіліну.

І калі ў «пана» лопнула ўжо цярпенне, і ён пацягнуў яе ў першыя руіны, і зняў свой аўтамат, і паклаў яго на зямлю, і калі пайшоў ёй насустрач, і вось ужо твар у твар — яна адхіснулася, імгненна выхапіла рэвальвер і націснула курок. Салдат ўпаў, а Фрося цяпер ужо сапраўды пабегла, пабегла... Уніз па Ленінскай, у «сваю» бальніцу.

«— Я забіла нямецкага салдата. Трэба схаваць рэвальвер, — сказала яна мне. А сама — як асінавы ліст... — успамінала праз многа гадоў Наталля Сінькевіч.

Куды схаваць? Дзе схаваеш у бальніцы? Стаіць шафа з архівам гісторый хвароб, мы загарнулі рэвальвер у паперу — і туды.

А праз некалькі дзён Фрося зноў падышла да мяне:

— Наталля Максімаўна! (Я была старшая сястра аддзялення). Заўтра я павінна ісці ў атрад. Зрабіце, каб я не працавала.

Назаўтра іду да Зубарава, кажу яму:

— Фрося зноў не выйшла на работу, трэба замяніць...

— Дзе яна? — пытаецца.

— Вы ж ведаеце, у яе туберкулёз тазабедранага сустава. Яна ляжыць хворая. Гэта ж вельмі баліць чалавеку, Барыс Барысавіч».

... Два разы на месяц галоўны ўрач Зубараў павінен быў з'яўляцца ў гестапа і дакладаць, што робіцца ў бальніцы. Ці не паступалі раненыя агнястрэльнай зброяй, ці не паяўляюцца часам «бальшавіцкія» лістоўкі, газеты? Які настрой? Пра што гавораць? Словам, усё-ўсё...

І ён з'яўляўся. І дакладваў.

А тым часам Фрося зноў падыходзіла да старшай сястры Сінькевіч і зноў гаварыла:

— Іду ў атрад. Патрэбны медыкаменты. Многа.

# ТРЫБУНА чытачоў

## СПАРТАКІЯДА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ...

Так назвалі спарытўныя спаборніцтвы, якія адбыліся 29. VI. 1969 г. ў Орлі. Удзел прымалі спартыўныя гурткі ЛьЗС з Плюцічаў, Аўгустова, Міклашоў і Орлі. Арганізатарам была Павятовая рада ЛьЗС у Бельску. Першае месца заняў спартыўны гурток з Орлі, які набраў найбольш ачкоў. Цэласць мерапрыемства была сарганізавана добра. Буфет быў на месцы і добра абслужаны. Пасля заканчэння спартыўных спаборніцтваў адбылася вясёлая пастаноўка. Выступаў эстрадны калектыў «Фіглярныя нуткі» з Боцькаў.

**Ваня Кірызюк**
Крывяцічы

## КУТАВЕЦКІ ПРЫСТАНАК

Непадалёк вёскі Кутавая знаходзіцца аўтобусны прыстанак. Да мінулага года апрача дошкі з планам язды аўтобусаў не было ніякага памяшкання. Але ўсё ж такі прыстанкам гэтым зацікавілася многа жыхароў гэтай і суседніх вёсак, якія супольным чынам пабудавалі будку. Паводле планаў гэта быў пачатак працы, але на гэтым будова закончылася.

Хаця гэтая будка без акон і дзвярэй, але ўсё ж такі адыгрывае вялікую ролю, бо ў часе дажджу ці непагоды людзі маюць дзе схавацца.

**Вера Ахрымюк**
Падбаравіска

## НАЙЛЕПШАЯ ДРУЖЫНА

Гарцэрская дружына ў пачатковай школе ў Семяноўцы з'яўляецца адной з найлепшых у павеце. Камендант Гуфца з Гайнаўкі Аляксей Харкевіч 22 чэрвеня на фестыне БГКТ для апекуна гарцэраў, настаўніцы Ніны Пташынскай уручыў дыплом «Найлепшай дружыны».

Текст і фота **Віктар Бура**
Гайнаўка



## ПЕРШЫЯ АБСАЛЬВЕНТЫ

У гэтым годзе гайнаўскі агульнаадукацыйны ліцэй для працуючых атрымаў правы самастойнай школы. Дагэтуль быў ён толькі філіяй беластоцкага ліцэя.

У гайнаўскім ліцэі вучылася ў гэтым навучальным годзе 140 асоб. Першыя атэстаты сталасці атрымалі ўсе 34 асобы, якія былі ў апошнім класе. Як бачым, старт удачны, каб толькі так кожны год.

Дадам яшчэ і тое, што на заняткі ў ліцэі ходзіць моладзь пераважна вясковага паходжання і не толькі з Гайнаўскага, але і нават Беластоцкага павета.

Дзякуючы добрым і выдатным умовам навучання ў ліцэі для працуючых усе, хто дагэтуль па той ці іншай прычыне закончыў толькі пачатковую школу, магуць атрымаць атэстат сталасці. Трэба толькі заангажавання і ахвоты. Прымаўка «вучыцца ніколі не позна», як бачым, мае сваё абгрунтаванне.

**Янцал**
Гайнаўка




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Многа год чытаю «Ніву» і мне цяпер прышлося звярнуцца да цябе, як да свайго прыяцеля, за парадай.

Маю 63 гады, жыву на гаспадарцы, якая складаецца з 14 гектараў. Нядаўна памёр мой муж і я, астаўшыся адзінокай, звярнулася ў Прэзідыум грамадскай рады нарадовай у Арэшкаве, каб здаць гаспадарку дзяржаве, адкуль атрымала адмову. Прычына — цераспалосіца. Падаткі трэба плаціць, хоць зямля ляжыць аблогай.

Парай, Сэрцайка, што рабіць. За параду буду вельмі ўдзячна.

**Чытачка «Нівы»**
з Гайнаўскага павета

У Вашай справе мы звярнуліся да юрыста, які даў наступны адказ:

Праўда, грамадскія рады не маюць абавязку ў кожным выпадку прымаць гаспадарку, але яны павінны пры гэтым браць пад увагу сітуацыі бязвыхадныя для ўладальнікаў гаспадарак.

Раім звярнуцца ў Прэзідыум Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы са скаргай на адмову пераняцця гаспадаркі.

**Сэрцайка**



Тут загінуў і быў пахаваны старшы сержант Савецкай Арміі Іван Чарнішаў.

## ВЫЗВАЛЕННЕ ВЁСКІ МІКЛАШЫ

Ад 16 да 26 ліпеня 1944 года ішлі бai за вёску Міклашы ў Бельскім павеце. Савецкія снарады трапна білі па абаронных пунктах ворага. Гэта сведчыць, што савецкая разведка мела дакладную інфармацыю. Немцы лютавалі. Выгналі моладзь капаць акопы. А калі пад націскам савецкай артылерыі вымушаны былі пакінуць вёску, рашылі расстраляць усіх жыхароў вёскі. З 25 на 26 ліпеня сагналі немцы жыхароў Міклашоў на панадворак камуніста, былога вязня Картускай Бярозы Хведара Чарняўскага (які хаваўся за вёскай і якога немцы ніяк не маглі злавіць) і абставілі кулямётамі.

Савецкія разведчыкі паведамілі сваё камандванне, што немцы рыхтуюць злачынства над мірным насельніцтвам вёскі. Раніцай 26 ліпеня на ворага абрушыўся моцны артылерыйскі агонь. Пасля абеду немцы пакінулі вёску і не паспелі расстраляць яе насельніцтва. У баі за вёску Міклашы загінула некалькі савецкіх салдат на чале са старшым сяржантам Іванам Чарнішавым. Вёска была выратавана, ад артылерыйскага абстрэлу пацярпела толькі некалькі дамоў.

Дзень 26 ліпеня ўпісаны ў гісторыю вёскі Міклашы як дзень вызвалення. Ужо 24 гады гэты дзень святочны, свабодны ад працы. У гэты дзень старэйшыя людзі расказваюць сваім дзецям аб цяжкіх хвілінах, якія перажылі ў сераду 26 ліпеня 1944 г.



Хведар Чарняўскі са сваімі дочкамі Оляй і Нінай, якія на 23-цюю гадавіну вызвалення вёскі прыехалі да бацькі ў госці з Гродна.

Тэкст і фота **П. Зінкевіч**

---

Так многа, што данесці ёй адной было б не пад сілу. Тэрмінова, праз іншых сувязных, выклікалі падмогу. З лесу, з партызанскага атрада, прыехаў на возе «селянін» — Віталь Арэхаў — праведаць «хворую сваячку» ў бальніцы. А назад на гэтым жа возе «хворая сваячка» везла ў партызанскі атрад абсталяванне для палявога шпіталю. Везла цераз увесь горад!.. Сядзела зверху на сене, захінуўшыся ў хустку, а забінтаваная нага ляжала на віду, напаказ усім. Хто не верыць — няхай, маўляў, паглядзіць, разбінтуе...

Партызанам патрэбны былі і дакументы. Без «аўсвайсаў» і прапускоў замірала сувязь з горадам, з падполлем. Прычым яны павінны былі быць самыя «свежыя» і бездакорныя. Падпольшчык Іван Казлоў нястомна працаваў над імі. Праз медыцынскую сястру Вікторыю Рубец яны траплялі да Фросі, а Фрося, самы надзейны, самы смелы сувязны, несла іх у атрад. І яшчэ... Недзе там, на Беларускай вуліцы, дзе жыла медыцынская сястра Вера Сямёнаўна Кароль, ля акна круглыя суткі хто-небудзь дзяжурыў. Яна ці Іван Петрачэнка. Лічылі цягнікі: колькі, з якім грузам прайшло іх на ўсход. І гэтыя звесткі таксама несла ў атрад Фрося...

— Зноў няма вашай Калбеевай?

— Так, пан Зубараў, няма. Вы ж ведаеце, хворая...

Яе не вучылі канспірацыі. Яе не рыхтавалі для падполля. Яна была смелая і неасцярожная, можа нават па-юнацку крыху лёгкадумная. Ёй здавалася, што тут, у бальніцы, усе свае, што рускі, савецкі чалавек не можа быць здраднікам. Ну, а калі ёсць вылюдкі, то толькі не тут, не ў «нашай» бальніцы.

Ідзе аднойчы па лесвіцы — насустрач Зубараў.

— Што гэта ў вас за скрутак такі?

— Ды так, газеты.

— Якія газеты, пакажыце.

— Звычайныя, нямецкія...

І пайшла ўніз. Не паспеў Зубараў адысці прыступкі на тры — павярнулася, паказала яму ў спіну загаловак «Праўды» і перадражніла яшчэ: вось, маўляў, якія газеты, «пан»!

— Мы так і замерлі ад страху, — успамінаюць цяпер тыя, хто быў сведкам гэтай сцэны. — Просім яе, бывала: «Фросечка, ну будзь хоць крышку асцярожная. Не рызыкуй так дарэмна!» Дзе там!

...Гэта было апошняе, ці можа адно з апошніх заданняў, якое выконвала Фрося Калбеева. З картамі ваенных аб'ектаў, з дакументамі і медыкаментамі разам з Рэгінай Івановай яны ішлі ў вёску Лускава на сувязь з партызанамі. Ішлі дзве дзяўчыны з горада, як заўсёды, як павялося на той час, з клункамі: «мянаць на хлеб». Здавалася, усё ціха, спакойна. Нічога навокал не выклікала трывогі. Але дзяўчаты ідуць моўчкі, нервы — як нацягнутыя струны. Раптам аднекуль здалёк вецер данёс едкі пах дыму. Наперадзе нешта гарэла. Што магло здарыцца там, у вёсцы Панерня, цераз якую яны павінны абавязкова прайсці?

Панерня гарэла. Сюды ўварваўся атрад карнікаў, і ўсе дарогі былі перакрыты — ні прайсці, ні прапаўзці... Мост цераз рэчку ўзарваны... І ўжо чуваць галасы фашыстаў, паказаліся на дарозе салдаты з аўтаматамі... Як былі, у адзенні, кінуліся дзяўчаты ў рэчку, пайшлі ў брод, а потым, аж да самага цямна, аж да той хвіліны, пакуль апошняя група карнікаў не пайшла з вёскі, сядзелі мокрыя, ляскаючы зубамі, у кустах.

І без таго хворай, Фросі гэта не прайшло дарэмна. Яна надоўга выйшла са строю, ляжала ў бальніцы.

... То быў адзін з самых трагічных дзён бальніцы. «Яны» ўварваліся ў палату, дзе ляжала хворая Фрося. Афіцэр і некалькі салдат. Кінуліся да ложка.

— Шнэль! Уставай!

Фрося не кранулася з месца. Ды і не магла яна крануцца... Ботамі, прыкладам білі, пакуль не страціла прытомнасць, у адной кашулі, паўголую, павалаклі ў машыну... Адна з медыцынскіх сясцёр накінула на Фросю коўдру — на вуліцы было холадна, восень... Афіцэр ірвануў коўдру, замахнуўся на сястру: за каго, маўляў, заступаешся?!

— Парцізан! Бандыт!

...І больш Фросю ніхто не бачыў. Кажуць, што яе спалілі ў Трасцянцы.

(Працяг за тыдзень)

**«НІВА» — ВАШ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ.**
**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ»!**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Tysięczne okno” (franc.), 29—30.VII. „Kozacy” (radz.), 31.VII—1.VIII. „Trzy kroki po ziemi” (polski), 2—3.VIII.

**Нараўка**
„Świat grozy” (polski), 30.VII—3.VIII.

**Нарва**
„Falstaff” (hiszpański), 30.VII—3.VIII.

**Чыжы**
„Wilcze echa” (polski), 30.VII—3.VIII.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ucieczka w milczenie” (NRD), 30.VII—3.VIII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Na los szczęścia Baltazarze” (franc.), „Wieczny kalendarz” (bułg.), 30.VII—3.VIII.

**Орля**
„Dzień w którym wypłynęła ryba” (grecki), 30.VII—3.VIII.

**Райск**
„Wieczny kalendarz” (bułg.), 30.VII—3.VIII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Walizka z milionami” (franc.), „Ruchome piaski” (polski), 29.VII—1.VIII.

**Міхалова**
„Wehikuł czasu” (USA), 29.—30.VII. „Partyzanckim szlakiem” (jugosł.), 31.VII—1.VIII. „Czworokąt śmierci” (czeski), 2—3.VIII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Sprawdzono min nie ma” (jugosł.), 29—30.VII. „Dziennik młodego małżeństwa” (fiński), 31.VII—1.VIII. „Każdemu swoje” (włoski), 2.—2.VIII.

**Шудзялава**
„Rok Franka W” (polski), 30.VII—3.VIII.

**Янаў**
„Pustelnia Parmeńska” (francuski), 30.VII—3.VIII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Opowieść o Leninie” (radz.), „Pierwszy dzień wolności” (polski), 30.VII—3.VIII.

**Мельнік**
„Mam tu swój dom” (radz.), 29.—30.VII. „Start” (belg.), 31.VII—1.VIII. „Morderca na zawołanie” (NRD), 2—3.VIII.

**Мілейчыцы**
„Przygody Wernera Holta” (NRD), 29—30.VII. „Ludzie w hotelu” (franc.), 31.VII—1.VIII. „Ruchomie piaski (polski), 2—3.VIII.

### ДУБРОЙСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Jak się pozbyć Helenki” (czeski), 2—3.VIII.

**Ліпск**
„Ubranie prawie nowe” (polski), 2—3.VIII.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6892

